Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

**Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:**
**Вільня, Віленская 8, кв. 3.**

**Прыймо інтэрэсантаў**
ад 11 да 12 гадз. што-дня,
апрача сьвятаў і нядзель.

**Падпіска з дастаўкай да хаты:**
за 1 год—7 зл., за паўгоду—
3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл.,
за 1 мес.—75 гр.

Год 1. Вільня, 19 сьнежня 1929 г. №. 2.



## Споўнім наш абавязак!

У першым-жа нумары нашае часопісі мы зьмясьцілі на першай страніцы кліч:

„Бацькі! Не забывайцеся, што толькі да 31 сьнежня можна падаваць дэклярацыі аб беларускіх школах, калі хочаце іх мець на наступную восень!

„Няхай кожын год чуваць будзе ваш моцны голас з дамаганьнем роднае школы!“.

Сягоньня кліч гэты паўтараем. Бо ў нашай барацьбе за волю і адраджэньне нашага народу, за заваяваньне яму лепшага соцыяльнага ладу, за зямлю і права працоўных— *справа роднае школы стаіць на адным з найбольш пачэсных месц*. Бо паднясьце культурнага роўня народных гушчаў — гэта наймагутнейшая зброя ў змаганьні за ясьнейшую будучыню — нашую і нашых дзетак.

Ведаюць гэта найлепей тыя сілы, што на цямноце народу будуюць свой дабрабыт. І робяць яны ўсё, каб адбіць у беларускіх масаў усялякую ахвоту да барацьбы за родную школу. Вось чаму гэтак туга, гэтак назьдзіў павольна, мо' ў тысячнай долі зьдзейсьняецца нашае права мець дзяржаўныя школы ў беларускай мове ўсюды, дзе мы гэтага жадаем.

Ворагі беларускае школы спадзяюцца, што ў нас ня хопіць нэрваў, ня хопіць цярплівасьці, каб кожын год выяўляць сваю волю ў справе роднае школы. Ды дарэмна: бо, хоць запраўды ў людзей слабых духам могуць апускацца рукі, бачучы, што падаваныя дагэтуль што-году тысячы дэклярацыяў за беларускія школы не дасягаюць сваей мэты і астаюцца „голасам гукаючага ў пустыні“, — аднак, мы ведаем, што ворагі нашыя толькі на гэта й чакаюць. І мы *не падзем духам*!

І сёлета, як у мінулыя гады, моцны голас нашага сялянства хай пацьвердзіць непарушную, нязьменную волю яго мець беларускую школу. Не паддамося зьнеахвочаньню, не паддамося безнадзейнасьці.

Усе разам, дружна і сьмела *патрэбуем мы таго, на што маем і маральнае, і фармальнае права*. Гэта — наш абавязак, нашая павіннасьць і перад сучасьнасьцяй, і перад будучынай.

Дык да працы! Хто дагэтуль ня споўніў гэтага свайго абавязку, *хай споўніць яго ў апошнія дні, якія нам яшчэ асталіся*!

## Як пасьцелешся, так і высьпішся.

Апошнія падзеі ў Польскім Сойме, закончыўшыся, як ведама адстаўкаю Ураду, зьяўляюцца рэзультатам барацьбы паміж Соймам і Урадам за ўладу. Сойм выражаючы недаверра Ураду, паклікаўся на нявыкананьне ўрадам абавязуючых законаў і непашану да канстытуцыі і г.д.

Калі разважаць гэтую спробу аб'ектыўна, дык, зразумела, прыдзецца згадзіцца з тым поглядам, што закон павінен быць выкананы аднолькава ўсімі —Прэзыдэнтам і слугою, генэралам і салдатам, старастам і сторажам, бо-ж у дэмократычнай рэспубліцы, якою фармальна лічыцца Польшча, усе роўныя перад Законам.

Аднак, незважаючы на гэту, здавалася-бы, зусім слушную пазыцыю Сойму ў барацьбе яго за выкананьне законаў, ён неяк мала мае да сябе спагаду з боку шырокіх слаёў грамадзянства, што-ж датачыць адносінаў да гэтае соймавае акцыі беларускага грамадзянства, дык трэба шчыра зазначыць, што адносіны гэтыя можна было-б назваць **вясёлымі**. Беларускае Грамадзянства, стоючы збоку, толькі пасьмейваецца, бо-ж у сур'ёз гэтага соймавага трагізму браць ня можа.

Сойм закрычаў „караул“ на ўвесь сьвет толькі тады, калі ўшчамілі яго самога; калі-ж гэта датычыла другіх, калі невыкананьне законаў і іх гвалчэньне навет пры чыста „парляманцкіх“ урадах адбілася ня толькі на целе, але і на душы беларускага народу — дык і ППС, і НПР, і ХД, і НД. і ўсе тыя, што сёньня так бароняць законнасьць, толькі пасьмейваліся. І ў пару, здаецца, будзе сёньня прыпомніць паном паслом аб нячуваным у гісторыі парляментарызму арэшце паслоў беларускае сялянска - работніцкае Грамады, без папярэдняе згоды Сойму. А пасьля тыя-ж паны паслы з пад таго-ж самага знаку НПР, Эндэкаў і Хадэкаў узаконілі яго, сваім галасаваньнем, прызнаўшы такое нарушэньне канстытуцыі — дапусьцімым, калі справа йшла аб беларусах. — Гэта-ж тыя самыя польскія партыі ў 1924 годзе зацьвярдзілі крыўдныя для ўсіх меншасьцяў, не зважаючы на іх дружны пратэст, так-званыя „языковыя законы“. А хіба-ж ня ведама было паном, сяньнешнім абаронцам законнасьці, што на'т і гэты крыўдны закон нідзе на працягу вось ужо 5 гадоў ня выконваецца? Усім аж надта добра ведама, што беларускі народ у працягу гэтых 5-х гадоў злажыў дзесяткі тысяч дэкляарцыяў на беларускую школу, злажыў на падставе істнуючага закону і дагэтуль амаль што нічога не атрымаў?! Ці ўрэшце ня ведамы і той факт, што сам сойм у сваім часе зацьвярдзіў буджэт на ўрадовую беларускую вучыцельскую сэмінарыю, а ўрад ня толькі дасюль яе не адчыніў, але й не дае дагэтуль канцэсіі на прыватную вуч. сэмінарыю і адно-гадовыя вуч. курсы, якіх дабіваецца Беларускі Вуч. Саюз?! Усё гэта добра было ведама паном паслом і справа, і зьлева; аднак — за вынятккм нялічных чэсных адзінак —яны на гэта ня толькі не рэагавалі, але, як паказаў прыклад з арыштамі Грамадаўскіх паслоў, самі ўзаконівалі дакананае нарушэньне канстытуцыі.

Вось чаму цяпер беларускае грамадзянства зусім не рэагуе і не прымаецца крыкам опозыцыі. Усе Вы, паночкі, добранькія тады, як Вас ушчэмяць і пакуль-жа гэтага няма, дык Вы і самі не адтаго, каб дапамагчы зьдзекавацца над другім.

Вось як небясьпечна падтасоўваць закон да паасобных мамэнтаў; вось, як небясьпечна станавіцца на шлях бяспраўя, бо-ж у канцы канцоў адаб'ецца гэта і на тым, хто гвалт учыніў над другімі.

Праўдзівая народная прыказка: „Як пасьцелешся, так і высьпішся“.

Эра.

## Распаляйце!

Распаляйце ясна горны,
разгарыцца вугаль чорны
полымем-агнём.
Дзьміце, каб мяхі гудзелі,
іскры з посьвістам ляцелі
яркім прамянём,
і жалеза награвайце,
награвайце, напалайце
на чырвоны цьвет.
Захваціце абцугамі
і ударце малатамі,
каб аж тросься сьвет!
Прыударце з гулкім звонам,
молат ўзлётам. Жмі з разгонам,
з прызванам лупі!
іскры сыпнуць хай завеяй
на лепшыя дні.
Распалайце, куйце сьмела,
ну-це клопцы, гэй, да дзела!
Сьмехам рве гарно.
Вы са штабаў зімнашэрых
Прапай ёмкай, працай вернай
Скуеце хоць што.

А. Б.

# З Радавае Беларусі.

**Ані КПБ, ані Камсамол ня бачылі „правага ўхілу“ і „нацыянал-дэмакратуэму“.**

Паход, распачаты ў Радавай Беларусі проці беларускіх камуністаў і беларускіх дзеячоў нагул, „сталінаўцы“ тлумачаць „правым ухілам“, быццам-то выяўленым беларусамі. Адвак, да выступленьня ў „Комсомольской Правде“ нейкага маскоўскага „апякуна“ беларусаў, таёмнага А. І., **ніякага „правага ўхілу“ ня бачылі ані Камуністычная Партыя, ані—Камсамол.** „Пабачылі“ тады, як выйшаў прыказ „бачыць“—**з Масквы.** А тады паднялі галаву ўсе маскоўскія шовіністы ў Кам. Партыі, якім гадамі сэрца балела, гледзячы на росквіт беларускае культуры, якім улада беларускіх работнікаў і сялян ня раз „біла па лапах“ за паскудную зьвягу на ўсё беларускае.

Мы падаем ніжэй цэлы рад выступленьняў „патэнтаваных“ камуністаў расейскае і жыдоўскае нацыянальнасьці, якія **німаволі** сьцьвярджаюць справядлівасьць вышэйсказанага.

Вось, вынятккі з іх прамоваў на сходзе менскага партактыву згодна з справаздачай „абноўленае“ „Савецкае Беларусі“ з 17.IX. 1929:

> Тав. **Мар'ясін**, гаворачы аб саматужнапрамысловай каапэрацыі, паказвае на тое, што арцелі, якія захапляюцца самапрамкаапэрацыйным аб'яднаньнем, былі засьмечаны да 1927 году, г. зн. да таго часу, калі там былі ранейшыя кіраўнікі. У рабоце саматужна-прамысловай каапэрацыі,—кажа прамоўца,—**ня было сьвядомага ажыцьцяўленьня права-апартуністычных тэорый** у практычнай рабоце, а было дапушчана на пэўным адрэзку часу **рад палітычных памылак.** Гэтыя памылкі мы зараз з усей сілай і павінны выпраўляць пры дапамозе ўсяе партарганізацыі.

А вось — на фроньце культурна-нацыянальным:

> Тов. **Челядинский** лічыць, што т. Гамарнік у свaім дакладзе, націскаючы на праявы правага ўхілу на эканамічным фроньце (Наркамзем, саматужна—прамысловая), ня спыніўся як трэба на праявах правага ўхілу і на культурна-ідэалёгічным фроньце.
>
> Мы цярпелі гадамі прапаганду контрэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі праз часопісь „Полымя“, „Савецкую Беларусь“, праз некаторыя падручнікі... У свой час ня лічылі патрэбным рашуча змагацца з гэтым.
>
> Ці займаліся мы як трэба вывучэньнем цэлага раду важнейшых у вашых умовах гэтых зьявішч, ці ведама, як належа, партыі, аб гэтых працэсах, ці мабілізаваны масы на рашучую барацьбу з нацыянал-дэмакратызмам? Трэба прызнацца, што не: спазьніліся, як адзначала перадавая „Зьвязды“ і адозва верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б. Адзіная толькі „Зьвязда“ сыгналізавала аб небясьпецы. У часы тэатральнай дыскусіі „Зьвязда“ і перад усімі сарвала „самабытную“ маску, за якой хаваўся доўгія гады нацыянал-дэмакратызм, рынулася на рашучую барацьбу з ім, але... трэба шкадаваць, што трымала ў гэтай барацьбе „рубцы“ ня так ад ворага, як ад свайго прыяцеля... „Савецкая Беларусь“— апынулася зброяй у руках нацыянал-дэмакратаў для барацьбы са „Зьвяздой“ супроць лініі КП(б)Б. Зараз вышаў з друку чарговы (ліпеньскі) нумар „Полымя“ і рэдакцыя (ужо абноўленая) ні адным словам не абмовілася аб памылках часопісі, аб тым, што яна асуджае старую нацыянал-дэмакратычную лінію часопісі, і што гэтую лінію бярэцца выправіць пабальшавіцку.
>
> Наша Акадэмія Навук, створаная ў выніку кастрычнікавае рэвалюцыі, у выніку ўмацаваньня дыктатуры пралетарыяту, павінна быць лябараторыяй для вырабу на аснове марксыцка-ленінскага вучэньня нам навуковых сродкаў для пабудовы Соцыяльнай Беларусі. Ці так яно ёсьць сёньня на справе? Ня зусім. Мы павінны ўлічаць „пляску“ нацыянал-дэмакратаў Зах. Беларусі, ксяндза Станкевіча і К-о, якія сьцьвярджаюць, што акадэмія „іх“—нацыянал-дэмакратычная.

**А вось—„найстрашнейшая“ праява „правага ўхілу“ на культурным фроньце: акадэмік С. Някрашэвіч, працуючы над старой беларускай літэратурнай мовай, вывучыў і напісаў расправу аб мове рукапісу XVII ст. нейкага Касьяна Ераміты. На няшчасьце, гэны Касьян быў—манахам. І за гэты „грэх“ Касьяна дастаецца С. Някрашэвічу, хаця той вывучаў не „божэственны“ зьмест твору Касьянавага, а выключна—асаблівасьці мовы яго! Паслухайце-ж, як гаворыць аб гэтым „праступку“ „товарищ Челядинскій“:**

> А паглядзіце, чым займаюцца акадэмікі „савецкае“ маркі, скажам як С. Някрашэвіч, за „савецкасьць“ якога некаторыя нашы адказныя таварышы гатовы пабіцца. Вось перад вамі таў-

